# МЕНСКАЯ ГРАМАДА

Палітычна-грамадзкая газэта

№ 3

ЛІСТАПАД 1993 г.

Кошт – 20 рублёў


## За права народа вырашаць свой лёс

Аб'яднаньне дэмакратычных сіл "Вясна-94" можна разглядаць як спробу стварэньня цэнтрысцкага палітычнага блоку. Пагадненьне аб стварэньні "Вясны-94" падпісалі тры палітычныя партыі —Аб'яднаная дэмакратычная, Сялянская і Сацыял-дэмакратычная Грамада, а таксама шэраг грамадзкіх арганізацый і асоб. Стратэгічная мэта аб'яднаньня выкладзена ва ўмовах пагадненьня і ў прынятай заяве. У іх названы й бліжэйшыя задачы аб'яднаньня.

Пасьля падпісаньня пагадненьня адбылася прэс-канферэнцыя, якая дапоўніла зьвесткі пра аб'яднаньне.З адказаў кіраўніка АДПБ А. Дабравольскага вынікала, што старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч ухваляе ідэю стварэньня цэнтрысцкага блока дэмакратычных сіл, цалкам згодны з прынцыпамі аб'яднаньня, хоць сам устрымліваецца ад удзелу ў палітычных блоках. Што датычыць Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", дык перамовы зь ім вяліся і будуць працягвацца, хоць ёсьць пэўныя разыходжаньні ў поглядах. БНФ прытрымліваецца прынцыпу парытэту правоў чалавека і правоў нацы, удзельнікі ж аб'яднаньня аддалі перавагу правам чалавека перад правамі любой чалавечай супольнасьці. Гэткую самую пазіцыю, як і БНФ, займае і Нацыянальна-дэмакратычная партыя (старшыня А. Астапенка). Рух за тэрытарыяльнае самакіраваньне ўмовай свайго далучэньня да аб'яднаньня лічыць больш шырокую фармулёўку яго галоўнай мэты: пераход ня толькі да прававой дзяржавы, але і да дэмакратычнай грамадзкай сістэмы.

З размовы на прэс-канферэнцыі можна меркаваць, што ўдзельнікі пагадненьня не ўспрымаюць яго цалкам у якасьці перадвыбарчага блоку і галоўнай сваёй задачай лічаць стратэгічную мэту пабудовы цывілізаванага дэмакратычнага грамадзтва і сацыяльнай рынкавай эканомікі, таму і назва "Вясна-94" зьяўляецца хутчэй сімвалічай, чым вызначэньнем канкрэтнага тэрміну.

Можна спадзявацца, што аб'яднаньне сапраўды стане дзейным, тым больш, што намеры ягоных стваральнікаў сьведчаць пра іх імкненьне неадкладна распачаць практычную працу. Ужо створаны каардынацыйны камітэт аб'яднаньня, будуць дзейнічаць мясцовыя грамадзкія камітэты "Вясны-94".

**Тацьцяна ПАЛЯКОВА.**

## Наш беларускі час

Спрадвеку было: селянін, сабраўшы ўраджай восеньню, меў час прыпыніцца, агледзецца, паразважаць.

Восень 1993. Агледзеліся... Семдзесят год беларускі люд шчыраваў на зямельцы, а цяпер аказалася: не тое сеялі, чужыя палеткі ўраблялі. Ураджай зьбірае той, хто ў гэтыя гады кіраваў, размяркоўваў, уладарыў. Цяпер самы час паразважаць, бо вясна не затрымаецца — і зноў сяўба.

Трэці год незалежнай Беларусі. І трэці год бескантрольна ўладараць у краіне люмпэн-бальшавікі і люмпэн-буржуа, ускормленыя імі. У айчынных трымальнікаў выканаўчай улады ды ўласнасьці і класічных люмпэнаў аднолькавы сьветапогляд: дай, калі не даюць — крадзь. І раскрадаюць Бацькаўшчыну, дзяржаву. гандлююць усім — маралью, здабыткамі культуры, нацыянальнай гісторый, нават прынцыпамі і ідэялогіяй, "адзіна правільным вучэньнем".

У сацыяльна-палітычным жыцьці краіны люмпэн-бальшавікі і люмпэн-буржуа абапіраюцца на люмпэнізаваныя сацыяльныя пласты насельніцтва. У Расеі інакш — у гэтай краіне на руінах савецкай улады і ў выніку распачатых не на словах, а на справе, эканамічных рэформаў пакутліва нараджаецца, выказваючыся па бальшавіцкай тэрміналогіі, клас нелюмпэнізаваных буржуа. Гэты клас — за працяг рэформаў, за дэмакратычныя выбары, за новую Расею. Беларускія ж буржуа —гэта былая наменклатура, выхаванцы партшкол і амаль паўсюдна плоць ад плоці ўтрыманцы чыноўніцка-бюракратычнага апарату.

Прадпрымальнік, уласьнік, заможны люд — праваднік эканамічнай рэформы ў краіне. Аднак у Беларусі складаюцца такія сацыяльна-прававыя і эканамічныя ўмовы, калі багацейшы той, хто бліжэй да выканаўчай улады альбо да дзяржаўнай маёмасьці. Таму новыя выбары ў краіне ва ўмовах адсутнасьці дэмакратычнага заканадаўства і свабоднага рынку, у т. л. і рынку сродкаў масавай інфармацыі, маюць быць драматычнымі і нясуць сабою пэўную небясьпеку самому ходу эканамічных рэформаў і дэмакратызацыі грамадзтва. Негледзячы на гэта і разьлічваючы на тое, што народ бясконца падманваць і "падкормліваць" люмпэн-бальшавіцкай ідэялогіяй, дэмакратычная апазіцыя настойвае на правядзеньні датэрміновых парламенцкіх выбараў.

Аднак на датэрміновыя выбары нават увесну 1994 года непрыхільнікі дэмакратыі ў Беларусі ісьці ня хочуць. Яны хацелі б мець "моцнага" люмпэн-прэзідэнта, і на гэтай пасадзе бачыць таго, каго паслужліва-ўмільна клічуць накшталт "наш Пётр Міронавіч". Пад гэта пасьпешліва "падганяецца" чарговы праект Канстытуцыі краіны. Дзеля захаваньня неабмежаванай улады ў руках былой наменклатуры люмпэн-бальшавікі гатовы "здаць" апошні бастыён сацыялізму — Саветы. Гэтым жа праектам Канстытуцыі прадугледжана, што выканаўчую ўладу на месцах будуць не выбіраць усенародна альбо хоць бы на сесіях Саветаў, а прызначаць прэзідэнцкімі ўказамі. Нагадайма, што раней гэтыя ж "верные ленинцы" ў асобе камуністычнай большасьці Вярхоўнага Савета Беларусі разагналі КПБ-КПСС, разбурылі СССР, а цяпер гатовы дзеля перспектывы ўласнага ўзбага

*(Заканчэньне на 2-ой стар.)*

## Заява аб утварэньні Аб'яднаньня дэмакратычных сіл "Вясна-94"

Палітычная, эканамічная і сацыяльная сітуацыя наблізілася да крытычнай рысы, крызіс штодзённа пагаршае жыццё людзей. Адказнасьць за лёс роднай краіны патрабуе ад яе грамадзян сацыяльнай актыўнасьці. Мы ўпэўнены, што ўмовы адраджэньня Беларусі — народаўладзьдзе, рынкавая эканоміка і дзяржаўная самастойнасьць. Але дасягнуць гэтага магчыма толькі агульнымі намаганьнямі. Таму мы ствараем аб'яднаньне дэмакратычных сіл, у склад якога могуць уваходзіць палітычныя партыі і рухі, грамадзкія, прафесійныя і рэлігійныя арганізацыі, творчыя саюзы і прыватныя асобы.

Галоўная мэта аб'яднаньня — стварыць палітычныя ўмовы для цывілізаванага пераходу ад таталітарнай сістэмы да прававой дэмакратычный дзяржавы.

Наша аб'яднаньне грунтуецца на наступных галоўных прынцыпах:

— будаўніцтва суверэннай дзяржавы, бязьядзерны статус і неўваход Беларусі ў ваенныя блокі;

— прыярытэт правоў грамадзян, замацаваных ва Усеагульнай дэкляррацыі правоў чалавека, перад інтарэсамі дзяржавы, нацыянальных і сацыяльных груп;

— рэфармаваньне каманднай эканомікі ў сацыяльную рынкавую.

Бліжэйшымі задачамі аб'яднаньня мы лічым:

— стварэньне кааліцыйнага ўрада народнага даверу дзеля ажыцьцяўленьня рашучых эканамічных рэформ;

— правядзеньне выбараў у Вярхоўны Савет не пазьней вясны 1994 г. на падставе новага дэмакратычнага выбарчага закону.

Мы прыкладзем усе намаганьні, каб спрыяць выхаду з крызісу шляхам рэформ і вырашэньня рэальных эканамічных і сацыяльных праблем.

Мы выступаем не ад імя ўсяго народа, а за права народа вырашаць свой лёс на выбарчых участках.

**9 кастрычніка 1993 г.**

## Дзе выйсьце з тупіка?

**Размова з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь, намесьнікам старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай рэформе, дасягненьні эканамічнай самастойнасьці і суверэнітэту спадаром Віктарам АЛАМПІЕВЫМ.**

**— Чым далей, тым больш чуюцца размовы пра бядотны стан нашае эканомікі. А як Вы можаце ахарактарызаваць яго?**

— Цяперашні стан эканомікі красамоўна сьведчыць пра поўны пралік кіраўніцтва дзяржавыяк у праблемах палітыкі, так і ў эканоміцы. Апошнія тры гады кіраўніцтва Саўміна жыло ілюзіямі і рабіла неажыцьцяўляльныя планы. Давайце зьвернемся да лічбаў. Пачну з прагнозаў кіраўніцтва пра магчымы спад вытворчасьці ў 1993 годзе. Планавалі мець 3 %, г. зн. у тры разы менш, чым у 1992 г. (9,4 %). За 9 месяцаў спад складае 14,6 %, у асобных галінах яшчэ болей: у нафтаперапрацоўчай — 44,7 %, у хімічнай — 19,6 %. Нават без уліку гэтых галін спад вытворчасьці складае 6,5 %.

**— Хто, як Вы мяркуеце, вінаваты ў тым, што ў нас склалася надзвычай цяжкае становішча з нафтапрадуктамі?**

— Беларусь не адзіная краіна ў сьвеце, якой нестае сваіх рэсурсаў. Але паспрабуйце прыгадаць (акрамя дзяржаў СНД), дзе яшчэ гэтак востра адчуваецца недахоп энергарэсурсаў. Давайце прыкінем, як вырашаліся пытаньні энерганасьбітаў. Папершае: пад пастаянны звон пра неабходнасьць аднаўленьня разбураных сувязяў кіраўніцтва Саўміна не заўважала пераўтварэньняў у эканоміцы Расеі, працягвала дзейнічаць старымі метадамі. Зьездзяць у Маскву, падпішуць міжурадавае пагадненьне пра пастаўку нафты. І чакаюць. Не зьвяртаючы ўвагі на тое, што за паўтара года каля 70 % нафтаздабыўных прадпрыемстваў Расеі сталі акцыянернымі і самі вызначаюць з кім гандляваць, г. зн. у каго ёсьць грошы.

Па-другое: кіраўніцтва Саўміна думала разьлічыцца за танныя энергарэсурсы суверэнітэтам. Улезьлі ў дамову аб калектыўнай бясьпецы, а атрымалі зьняцьце з абарачэньня расейскіх грошай. Мала было гэтага. Пайшлі далей. Сталі ствараць рублёвую зону новага тыпу і аб'ядноўваць нашу грашовую сістэму з расейскай. Тры гады рэформы тармазіліся, а цяпер за тры месяцы да 1 студзеня 1994 г. трэба гарманізаваць наша заканадаўства з расейскім. Хто перашкаджаў гэта рабіць раней? Цяпер жа ўзьдзеяньне гарманізацы на нашу эканоміку будзе мацней за польскую шокавую тэрапію. Гэта будзе поўны разгром'е. Міністр фінансаў Расеі Б. Фёдараў адназначна намякнуў, што магчымы ня толькі ўзгодненасьць эканамічнай палітыкі дзяржаў СНД, але й далучэньне іх да Расейскай Фэдэрацыі.

А мо й сапраўды, калі мы гэткія бязмозглыя і ня ў стане самі адрадзіць сваю дзяржаву і стварыць рынкавую эканоміку, трэба зьвярнуцца да прэзідэнта Ельцына, каб ён прыслаў нам свайго прадстаўніка? Бо ўжо з нашым Саўмінам заехалі ў тупік. Добра, што дзяржавы Прыбалтыкі ўвялі сваю валюту і цяпер перапрадаюць нам расейскія энергарэсурсы. Больш сьмешнай і трагічнай сітуацыі не прыдумаеш.

*(Заканчэньне на 2-й стар.)*

## Кааліцыйны ўрад і абарона незалежнасьці

16 кастрычніка ў менскім Доме літаратара адбылася канферэнцыя некамуністычных і антыімперскіх сіл Беларусі. З дакладам на канферэнцыі аб характарыстыцы палітычнага становішча ў краіне выступілі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк і старшыня БСДГ Алег Трусаў. Былі заслуханы таксама даклады й судаклады аб крызісе беларускай эканомікі і шляхах выйсьця зь яго (народны дэпутат Віктар Алампіеў, намеснік старшыні АДПБ Станіслаў Гусак і намеснік старшыні БСП акадэмік Іван Нікітчанка), пра структуры і задачы пераходнага кааліцыйнага ўраду (народны дэпутат Уладзімір Заблоцкі).

На канферэнцыі былі прынятыя дакументы "Пра стварэньне пераходнага кааліцыйнага ўраду і новыя выбары" і "Пра абарону дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі". У апошнім, у прыватнасьці, гаворыцца, што чарговая спроба камуністычна-фашыстоўскага путчу ў Маскве засьведчыла як марнасьць спадзяваньняў рэакцыйных сілаў у Беларусі на вяртаньне камуністычна-імпэрскага рэваншу, гэтак і пільную неабходнасьць мацаваць палітычную і эканамічную незалежнасьць Беларусі ў суседзтве зь нестабільнаю краінаю, а таксама нейтралітэт. Падкрэсьліваецца, што абарона незалежнасьці нашае дзяржавы — гэта абарона інтарэсаў кожнага грамадзяніна Беларусі і наступных пакаленьняў.

**Кар. "Менскае грамады"**

## Наш беларускі час

*(Заканчэньне. Пачатак на 1-ай стар.)*

чэньня ліквідаваць і савецкую ўладу!

Навошта ж вы, панове-бальшавікі, вешаеце сабак на беларускіх "нацыянал-дэмакратаў"?! У падкантрольных ураду сродках масавай інфармацыі бясконца мусіруюцца подленькія ідэйкі: у росце цэнаў, падзеньні эканомікі ў прорву, "прыхапізацыі", развале бюджэтнай і фінансавай сістэмы і, відаць, паводцы на Палесьсі — вінаватыя апазіцыя, дэмакраты. "Віна" дэмакратычнай Беларусі толькі ў тым, што пасьля развалу звышдзяржавы незалежная краіна паўстала ў путах былога партбосаўскага істэблішмэнту. З пэўнымі агаворкамі можна выявіць па тыражах праўрадавых газэт тую колькасьць грамадзян Беларусі, якія яшчэ не пазбавіліся рэшткаў люмпэнскай псіхалогіі і, спажываючы гэтае нізкагатунковае "чціва", верыць ці ад пачуцця сацыяльнай безвыходнасьці прымушае сябе верыць афіцыёзнаму друкаванаму слову.

Умовы правядзеньня прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, асаблівасьці абвешчанай зямельнай псеўдарэформы, тупіковая фінансава-крэдытнай і падаткова палітыка, памножаныя на недасканаласьць нацыянальнага заканадаўства і некампетэнтнасьць ды карумпаванасьць выканаўчай, параліч судовай улады, а таксама бязьдзейнасьць дзяржаўна-кантрольных структур прывялі да таго, што эканоміка краіны трапіла ў яшчэ большую залежнасьць ад чыноўніцкага апарату, чым гэта было раней, пры т. зв. каманднa-адміністрацыйнай эканоміцы.

Таму за сумныя вынікі рэформаў у Беларусі, у т. л. і за развал эканамічных сувязяў з краінамі СНД, Расеяй адказныя перш за ўсё структуры выканаўчай улады. Той улады, для якой эканамічны хаос — жыватворнае асяродзьдзе для ўзбагачэньня люмпэн-буржуа. Не сакрэт, што, напрыклад, завод, які прастойвае з-за недахопу сыравіны, энерганосьбітаў альбо цяжкасьцяў са збытам прадукцыі, — "прыхапізуецца" за бясцэнак. Калі ж на шляху да багацьця паўстане закон — яго чакае лёс дарожнага слупа, які можна абмінуць. Так, Доследны завод па вытворчасьці казеіну для сучасных кінескопаў — прадукцыі, за якую ахвотна заплацяць валютай — трапляе пад нож "рэарганізацыі", далучаецца да гармалзавода N 2 у г. Менску, а апошні ў свой час падпадае пад прыватызацыю як нерэнтабельнае прадпрыемства...

Жнівень-91 і кастрычнік-93, а таксама падзеі, зьвязаныя са спробай інкарпаваць нейтральную незалежную Беларусь у склад Расеі альбо па меншай меры ў адзіны вайскова-палітычны зьвяз з іншымі дзяржавамі СНД, гандаль суверэнітэтам краіны за права працягваць рабаўніцтва ўласнага народа, памкненьні ўвайсьці ў адзіную рублёвую, бюджэтную, мытную і г. д. зону — паказалі, хто ёсьць хто на Бацькаўшчыне. Прадаць — каб выжыць любой цаной. Выжыць — каб рабаваць нас з вамі, усю краіну. Вось жыцьцёвая ідэялогія сучаснага люмпэн-бальшавізму ў Беларусі.

Больш ніхто ніколі на Беларусі ня будзе мець выключнага права зьбіраць ураджай, плён працы ўсяго народа. Гэтае права вяртаецца да сейбіта. Надыйдзе вясна, і прыйдзе наш, Беларускі час, Час дэмакратычных выбараў усіх галін улады ў краіне. Гэтая вясна альбо супадзе па часе з вясною 1994 года, альбо надыйдзе крыху пазьней, але сакавіцкі сок ужо цячэ па дрэве жыцьця.

Час падтрымаць дэмакратычную апазіцыю, якая ў зацятым змаганьні з люмпэн-бальшавізмам імкнецца павярнуць краіну на шлях сацыяльна-эканамічных рэформаў і нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня. Час рашуча выказацца за прыняцьце дэмакратычнага заканадаўства аб выбарах, за датэрміновы самароспуск парламента і прамыя выбары ўсім насельніцтвам кіраўнікоў мясцовых органаў улады. Час патрабаваць адстаўкі ўраду, які спрыяе прыхапізацыі і раскраданьню дзяржаўнай маёмасьці, які ня здольны на эканамічныя рэформы і вядзе народ да галечы, які гандлюе суверэнітэтам дзяржавы і не мае гонару гаварыць з народам на яго спрадвечнай мове, які злоўжывае ўладай і марыць пра дыктатуру.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат Беларусі.**

# Дзе выйсьце з тупіка?

*(Заканчэньне. Пачатак на 1-ай стар.)*

**— Ёсьць нямала людзей, у тым ліку і ў кіроўных структурах, якія хоць сёньня гатовы былі б аб'яднацца з Расейскай Федэрацыяй, бо мяркуюць, што адтуль адразу пацякуць рэкі нафты і іншага дабра, скончацца ўсе нашы праблемы.**

— Федэрацый у сьвеце шмат. Я параіў бы тым, хто плішчыцца ў федэрацыю, зьвярнуць свой позірк на Нямеччыну. Гэта таксама федэратыўная дзяржава. І калі пастурацца суверэнітэтам, дык лепш ужо за дойчмаркі чым за рублі. Дзеячы, якія штурхаюць нас да некага далучацца, быццам сьляпыя, ня бачаць, што ў Расеі для тых, у каго пустая кішэня (без расейскіх рублёў), няма і бензіну. Такім чынам, далучайся да Расейскай Федэрацыі, ці не далучайся, а грошыкі трэба ўмець зарабляць. У тым ліку і ня толькі рублі.

Калі ж па-сур'ёзнаму, дык усе гэтыя імкненьні кіраўніцтва Саўміна ні што іншае, як імкненьні да ліквідацыі Рэспублікі Беларусь і няўклюдная спроба пазьбегнуць адказнасьці за развал эканомікі. Ці не занадта высокая цана за іхнюю бязьдзейнасьць?

**— Ці не маглі б Вы пацьвердзіць лічбамі сваю думку?**

— Калі ласка! Так, за 9 месяцаў прадпрыемствы Беларусі адгрузілі прадукцыі на 5321,0 млрд. руб., у тым ліку ў СНД — на 1390 млрд. руб. або 26,1 % і на экспарт усяго на 480,5 млрд. руб. або 9 %.

Адгружаная на экспарт прадукцыя і зробленыя паслугі дазволілі атрымаць 539,7 млн. даляраў ЗША. Такім чынам усю выробленую прадукцыю можна ацаніць у 5,99 млрд. даляраў ЗША. Вядома, цяжка разьлічваць на тое, што можна ўсе 100 % выпускаемая прадукцыі прадаць на экспарт. Але ж для таго, каб купіць па сусьветных цэнах 20 млн. тон нафты трэба 1,6 млрд. даляраў (па 80 даляраў за тону), што раўназначна пастаўцы на экспарт крыху болей 30 % выпускаемай прадукцыі.

Як жа наш урад кантралюе зьнешнеэканамічныя сувязі? Зьвяртаю вашу ўвагу перш за ўсё на тое, што ў студзені-верасьні працавала 1206 дзяржаўных і толькі 230 недзяржаўных прадпрыемстваў. На долю прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасьці прыпадала 84,4 % агульнага аб'ёму прадукцыі. У старшыні Саўміна ёсьць усе неабходныя структуры для ажыцьцяўленьня кантролю за эфектыўнасьцю зьнешнеэканамічнай дзейнасьці дзяржаўнага сектара эканомікі. За 9 месяцаў зьнешнегандлёвы абарот склаў 1,1 млрд. даляраў ЗША або зьменшыўся ў параўнаньні з мінулым годам на 103,6 млн. даляраў. Пры гэтым калі летась экспарт быў на 209,3 млн. даляраў большы за імпарт, дык сёлета імпарт перавышае экспарт на 25,7 млн. даляраў.

Сёлета ў параўнаньні зь мінулым годам экспарт зьменшыўся на 23,9 % і склаў 539,7 млн. даляраў. Сёлета менш пастаўлена на экспарт: трактароў — на 31,6 %, халадзільнікаў — на 29,7 %, тэлевізараў — на 16,8 %, матацыклаў — на 59,2 %. Гэта пры ўмове, што за гэты самы час выпушчана трактароў — 67,5 тыс. (экспарт 5,6 тыс.), халадзільнікаў — 536,2 тыс. (эксп. 132,3 тыс.), тэлевізараў — 462,8 тыс. (эксп. 36,3 тыс.), матацыклаў — 105,0 тыс. (эксп. 3,2 тыс.). Пры гэтам на свабодна канвертавальную валюту экспартавана тавараў толькі на 269 млн. даляраў (51,2 %), астатняе — гэта бартэр. Што гэта такое, думаю, тлумачыць ня трэба.

Толькі на адным прыкладзе паспрабую паказаць эфектыўнасьць працы: трактароў за 9 месяцаў прадалі на 31,8 млн. даляраў, або 5870 шт., што на 2302 менш, чым летась. Сярэдняя цана продажу — 5419 даляраў за трактар. Роскід кошту ад 3944 да 15429 даляраў за трактар. З-за зьніжэньня колькасьці страціlі 12,5 млн. даляраў, а 4821 або 82,1 % прададзена па кошту ніжэй чым 5419 даляраў. Гэта значыць страта 2,5 млн. даляраў ЗША. Такім чынам агульныя страты складаюць 15,0 млн. даляраў.

Аналагічны разьлік можна зрабіць і па іншых відах тавараў. Такім чынам па экспарце наша дзяржава недаатрымала валюты каля 30 %. Ён павінен складаць 701,6 млн. даляраў, а гэта значыць, што ўсю выпускаемую прадукцыю можна ацаніць каля 7,0 млрд. даляраў ЗША. Можа узьнікнуць пытаньне: "А хто яе ў нас будзе купляць?". Адкажу: купляюць 87 краін сьвету, 72,2 % зьнешнегандлёвага абароту прыпадае на краіны Эўропы. Пры гэтым узрос зьнешнегандлёвы абарот з разьвітымі краінамі — з ЗША — у 2,9 раза, Канадай — у 2,6 раза, Японіяй — на 24,6 %. Скараціўся з краінамі былога СЭУ — з Польшчай — на 36 %, Балгарыяй — на 22,7 %, Кубай — на 43,8 %.

Велізарныя страты мае Беларусь з-за бескантрольнасьці пры куплі тавараў па імпарце. За многія тавары мы плацім больш, чым яны каштуюць на сусьветных рынках. Так, за адну тону пшаніцы плацілі 142 даляры, ячменю — 112, цукру — 313, бензіну — 200; за адну пару абутку — 19 даляраў. Збожжа куплена 585,7 тыс. тон на суму 80,1 млн. даляраў. За гэтыя грошы ў Казахстане можна было б купіць значна болей. Мы ж чамусьці павінны Казахстану за збожжа 43 млрд. рублёў.

**— Неяк дзіўна выглядае ўсё гэта. Хто ж тады не дае магчымасьці ўраду пасьпяхова перадольваць сёньня-шнія цяжкасьці ў эканоміцы? Якія сілы?**

— Калі верыць кіраўніцтву, то гэткія сілы ёсьць. Але гэта не сур'ёзна. Народ слушна кажа пра благога танцора. Давайце разам пашукаем гэтых зламысных дэмакратаў у саўмінаўскіх структурах, якія з незвычайнай упартасьцю разбураюць эканоміку і робяць жабракамі ўсіх грамадзян.

Мала які ўрад мае гэткія ідэальныя ўмовы для сябе, як наш. Шмат народных дэпутатаў працуе ў Саўміне і выканаўчых структурах, ствараючы магутнае ўрадавае лобі. Большасьць Вярхоўнага Савета і амаль усе чыноўнікі Саўміна палітычныя аднадумцы. Толькі павярхоўны прагляд прозьвішчаў з саўмінаўскага даведніка і параўнаньне іх з апошнім складам ЦК КПБ дазваляе ўбачыць больш як 60 адданых байцоў партыі. І гэта толькі верхнія эшалоны ўлады. Сярод народных дэпутатаў 16 членаў ЦК КПБ. Можна з пэўнасьцю сказаць: "Падпольны ЦК дзейнічае".

Сярод 108 членаў "самага беспартыйнага" дэпутацкага аб'яднаньня "Беларусь" больш як 90 % былыя члены КПБ, каля 50 % скончылі ВПШ. Сярод народных дэпутатаў каля 30 % былых партыйных і савецкіх службоўцаў. Пра якія рэформы і пра якое ўмацаваньне нашай дзяржавы можа быць размова ў гэткіх умовах? Ці могуць гэтыя людзі ўсьвядомлена ажыцьцяўляць якую-небудзь незалежную палітыку? Час паказаў, што не. І чым далей гэтыя "беспартийные товарищи" будуць кіраваць, тым да большага разбурэньня эканомікі і жабрацтва людзей мы прыйдзем.

**— Якое ж выйсьце са становішча, у якім апынулася наша Рэспубліка Беларусь?**

— Выйсьце адно: жадаць дабра свайму народу і працаваць для яго дабрабыту. Цяперашняе кіраўніцтва, як сьведчыць становішча, зусім ня здольнае на самастойную працу. І цяпер трэба весьці размову не пра стварэньне кааліцыйнага ўрада, бо наўрад ці гэта магчымае з пракамуністычнымі сіламі. Хутчэй за ўсё трэба весьці размову пра адстаўку прэм'ера і ягоных намесьнікаў, а таксама кіраўнікоў шэрагу ведамстваў, якія безнадзейна завалілі справу: Дзяржкампрама, Дзяржкамітэта па зьнешніх эканамічных сувязях, Дзяржкамітэта па эканоміцы і планаваньні. Дзяржкамітэта па кіраваньні маёмасьцю, Камітэта па зямельнай рэформе, Нацыянальнага банка і Мінфіна.

Абноўлены ўрад павінен стварыць умовы для правядзеньня дэмакратычных выбараў Вярхоўнага Савета, ня выключана, што ўжо ў сакавіку 1994 года, бо асноўная віна за становішча ў эканоміцы ляжыць і на большасьці цяперашняга Вярхоўнага Савета.

## 2000-ая мова Біблії

Біблію можна цяпер прачытаць на мовах бэтэ-дамоа, ямба, кечуа-пастаза, вепскай, запатэка-аматыян... Бэтэ-дамоа — мова, на якой размаўляюць 500 000 чалавек у заходнеафрыканскай рэспубліцы Кот д'Івуар — стала 2000-ай моваю, на якую перакладзена Сьвятое Пісьмо.

Крыху раней пазнаёміцца зь ім атрымалі магчымасьць 42 000 жыхароў Камеруна, якія размаўляюць на мове ямба, 4 000 жыхароў Эквадора і 2 000 жыхароў Перу, родная мова якіх кечуа-пастаза, 6 000 жыхароў мексіканскага штата Оахача, якія гавораць на мове запатэка-аматыян, і 13 000 жыхароў Расеі, роднай моваю якіх зьяўляецца вепская.

# Помнік Міхасю Ткачову

На Дзяды, 2 лістапада, на Усходніх могілках г. Менска ва ўрачыстай абстаноўцы быў адкрыты надмагільны помнік Міхасю Ткачову — першаму старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, вядомаму беларускаму вучонаму, доктару гістарычных навук, былому галоўнаму рэдактару выдавецтва Беларускай Энцыклапедыі. Памёр ён у 1992 годзе.

Помнік ўяўляе сабой тры мармуровыя стэлы — дзьве бакавыя белага колеру, а пасярэдзіне іх — чырвонага. На чырвонай стэле змешчаны медальён і адпаведныя надпісы. Аўтар помніка — вядомы скульптар Аляксандр Шатэрнік.

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ахвяравалі сродкі на будаўніцтва помніка Міхасю Ткачову.

* * *

У гэты ж самы дзень у Гародні на доме, дзе жыў у свой час Міхась Ткачоў, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**Ул. інф.**

# Ушанаваць памяць ахвяр

4 лістапада ў Менску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па заснаваньні Гістарычна-мемарыяльнага фонду "Трасьцянец". Яе адкрыў уступным словам народны дэпутат Беларусі Яўген Цумараў. Ён гаварыў, што гітлераўскі канцлагер загубы людзей ў гады акупацыі каля вёскі Малы Трасьцянец у ваколіцах Менска хоць і быў вядомы, але яму не надавалася належнай увагі. А гэта ж была трэцяя ўсьвеце і першая на тэрыторыі былога СССР па велічыні д'ябальская фабрыка сьмерці. Цяпер настаў час зрабіць усё для ўвекавечаньня памяці сотняў тысяч людзей, якія загінулі там. Да таго ж, як паказваюць дасьледаваньні, гэтыя мясьціны выкарыстоўвала і НКУС для расправы са сваімі ахвярамі.

Удзельнікі канферэнцыі гаварылі і пра тое, што цяпер у гэтым месцы вядзецца інтэнсіўная забудова, зямля, дзе ляжаць астанкі замардаваных, выкарыстоўваецца пад агароды і пашу для жывёлы. Бясспамятства зьневажае памяць пра загінуўшых, топчацца па іхніх касьцях. Таму на тэрыторыі, дзе быў калісьці лагер загубы людзей, трэба зрабіць ахоўную мемарыяльную зону, па-належнаму ўшанаваць памяць ахвяр.

На канферэнцыі адбыліся выбары рады Гістарычна-мемарыяльнага фонду "Трасьцянец". Старшынёю выбраны спадар Яўген Цумараў.

**Кар. "Менскае грамады"**

# З нагоды аднае заявы,
## ці клін клінам... або дуб дубам...

Сёлета адбыўся Першы зьезд беларусаў сьвету. Падзея надзвычайная, гістарычная. Але тут размова пойдзе не пра тое, што бачылася па тэлевізіі і чулася па радыё, а акурат пра тое, што ня бачылася й ня чулася.

Напачатку возьмем суседзяў нашых: Летува стала незалежнай — эміграцыйны ўрад яе перадае ёй свае паўнамоцтвы, Украіна дамагалася незалежнасьці — гэткія ж самыя дастала паўнамоцтвы. А мы ж, здаецца, і паперкі пісалі, як уіх, а эміграцыя і ў вус ня дзьме... "За державу обидно", — падумаў нехта з ураду... І зьявілася ідэя зьезду беларусаў сьвету. Але зьезд беларусаў па расейска-бальшавіцку не згарбузуеш... А Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"? Цудоўна! Галоўнае, каб музыкі не забыліся, хто грошы плаціў.

Няўдзячныя! Ухвалы ды заявы прынялі зусім не канструктыўныя — рэферэндум, бач, ім трэба! Хіба ж за гэткую музыку Саўмін грошы плаціў?

Аднак увесь трагікамізм падзеі найбольш адбыўся на міністэрстве абароны. Абставіны зьбегліся такім чынам, што МА давялося нават скарыстаць сакрэтную зброю — "нябачных палкоўнікаў". Справа ў тым, што колькасьць жадаючых патрапіць за зьезд перавышала ўмяшчальнасьць залі, таму аргкамітэт быў вымушаны запускаць людзей выключна па запрашэньнях. І раптам чатыры (!) палкоўнікі ў залі!? "Партызаны, партызаны, беларускія сыны..." Далей — болей. Змарнаваўшы столькі сіл, але гэтак і не здабыўшы праекта Заявы зьезду па вайсковым пытаньні, гаротныя палкоўнікі селі пісаць контрзаяву. А ўранку МА рассакрэціла сваю таямніцу. Ёсць у нашым міністэрстве абароны чалавек — умее чытаць і па-беларуску! А няўдзячныя нацыяналісты з БЗВ казалі, што ў Нашым войску нічога ня робіцца. Хлусяць згуртаванцы, як бачыце...

Аднак і гэта не расчуліла "суровыя" сэрцы беларусаў сьвету. Рэакцыя на гэтую контрзаяву была адваротная: да Заявы быў прапанаваны дадатак аб недаверы міністру абароны П. Казлоўскаму за здраду нацыянальным інтарэсам.

Тады праз колькі дзён прэсцэнтр МА ляснуў сваёй заявай па Заяве зьезду, але прынамсі зрабіць гэта па-беларуску ўжо ці моцы не хапіла, ці то надакучыла ўжо цацакацца з гэтымі беларусамі сьвету.

Што непасрэдна да заявы МА, дык тут прасочваецца наступная логіка: тваіх аргументаў слухаць ня буду, бо... у цябе няма халадзільніка. Але, можа, варта было б прыслухацца да думкі беларусаў, якія фармальна зараз грамадзяне іншых краін, а не лямантаваць, што яны ня маюць права даваць парады (асабліва тым, для каго грамадзянства Рэспублікі Беларусь як кара Боская).

І нарэшце, — гэта ўжо ня толькі да МА: ня "кучка экстремистов повела на поводу" зьезд, а дэлегаты яго, беларусы, якія, дзе б яны цяпер ні жылі, цікавяцца жыцьцём Бацькаўшчыны, газэты чытаюць, радыё слухаюць. Яны нутром адчуваюць, для каго Беларусь сьвятая, а для каго каўбасны ціхі край. І не ашукаеце вы нікога адным нязграбным крокам у бок, як вам здаецца, беларускасьці. Каб зьбіраць з палетка плён, трэба й нешта і пасеяць...

Дарэчы, пытаньне нашмат глыбейшае, чым проста суб'ектыўнае стаўленьне да беларускасьці міністра абароны. Ня трэба й апытаньня праводзіць у войску, каб зразумець негатыўнасьць адносінаў там да беларусізацыі. У сувязі з гэтым паўстае думка аб немагчымасьці функцыянаваньня нашага войска без атэстацыі. І ўжо прынамсі ненармальным зьяўляецца тое, што кіраваньне кадравай палітыкай Беларускага войска даручаецца асобам, выдаленым зь Сярэдняя Азіі. Гэта першае. І другое, нарэшце кадры павінен прызначаць міністр абароны, а не чыноўнікі "непотопляемого" Саўміна. Сучаснае войска — гэта ў першую чаргу калектыўная зброя, узаемадзеяньне, што не магчыма пры існуючай кадравай палітыцы. Гэта што датычыцца войска.

А наконт урадаў, якія ўпарта чакаюць зьменаў палітыкі ў суседа, а потым кідаюцца шукаць "крыніцы народнага даверу" там, дзе нічога добрага не зрабілі, і ўсё гэта замест рэформаў у галіне эканомікі — дык яны свой лёс прадвызначылі! Дарэчы, нешта не чуваць інфармацыі пра тое, у колькі разоў цэны ў Беларусі ніжэй у параўнаньні з Расеяй? Маўчаць, а самы час ужо даваць інфармацыю адваротнага зьместу.

**С. ІВАНОЎ.**

# І ня толькі пра эканоміку,

але і пра іншыя надзённыя праблемы Беларусі вялася гаворка на пленуме Цэнтральнае Рады БСДГ 2 кастрычніка. Асноўнае ж месца заняло тут пытаньне аб эканамічным становішчы Рэспублікі Беларусь. На думку асноўнага дакладчыка, сябра ЦР БСДГ прафесара У. Кулажанкі яно зьяўляецца складаным і супярэчлівым. У той час, як эканамічны крызіс узмацняе тэмпы, падпарадкаваныя ўраду сродкі масавай інфармацыі няспынна сьцьвярджаюць, што галоўнай прычынай эканамічнага развалу зьяўляецца разбурэньне эканамічных сувязяў, якія існавалі ў СССР. Аднак пры гэтым замоўчваецца тое, што сувязі, усталяваныя камандна-адміністрацыйнай сістэмай, разбурыліся ня толькі паміж былымі рэспублікамі былога СССР, але і унутры самой Расейскай Федэрацыі. Галоўная прычына разрыву — іх ненатуральнасьць, нерацыянальнасьць і неадпаведнасьць умовам рынкавай эканомікі. Цяпер трэба шукаць іншых шляхоў.

На пленуме было заяўлена пра неабходнасьць стварэньня кааліцыйнага ўрада народнага даверу, які будзе здольны весьці кваліфікаваную эканамічную палітыку і стварыць умовы для свабодных выбараў у Вярхоўны Савет на падставе новага дэмакратычнага выбарчага закона.

Удзельнікі пленума абмеркавалі стварэньне Аб'яднаньня дэмакратычных сіл "Вясна-94" і прынялі рашэньне аб далучэньні да гэтага аб'яднаньня БСДГ. На пленуме таксама абмяркоўвалася падрыхтоўка да правядзеньня міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Асноўныя пытаньні сацыяльна-гаспадарчай палітыкі ў Беларусі й суседніх краінах", якая павінна адбыцца ў Менску ў сьнежні 1993 г. з удзелам БСДГ.

**Кар. "Менскае грамады".**

# Калі б ня гэтыя дэмакраты...

Падобна на тое, што ў прэм'ера й ягонага ўрада сталі "пошаливать" нервы. Яно й ня дзіўна: развал эканомікі працягваецца, крызіс энергарэсурсаў, расьце інфляцыя, народ коціцца ў бездань жабрацтва. А як з гэтам справіцца, калі няма ні здольнасьцяў, ні ўмельства? Не дапамагаюць ніякія дамовы з Масквою. Што ж, тады можна ўжыць выпрабаваны метад — шукаць "ворагаў народа". Ды навошта іх шукаць — гэта ж, вядома, дэмакраты! Гэта яны не даюць магчымасьці ўраду пераадолець цяперашнюю крызісную паласу ў нашым разьвіцьці, забясьпечыць жыцьцё для людзей!

Таму ўлададзержцы й вырашылі зьвярнуцца да народа. І вось напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. і адкрыцьця сесіі Вярхоўнага Савета зьявіўся зварот "Да грамадзян Рэспублікі Беларусь". Лейтматыў яго — усё было б добра, калі б БНФ, БЗВ, кіраўнікі шэрагу прафсаюзаў і апазіцыйных палітычных сіл не правакавалі масавых грамадзянскіх беспарадкаў, не імкнуліся ўзарваць палітычную стабільнасьць ў рэспубліцы, любымі сродкамі захапіць уладу і г. д. Не прамінулі аўтары звароту нагадаць і пра камуна-фашысцкі мяцеж у Маскве 3 — 4 кастрычніка — вось глядзіце, і ў нас можа гэткае адбыцца па віне апазіцыі (праўда, у Маскве апазіцыя была якраз камуністычная, яна і распачала мяцеж). Ну, не абышлося ў звароце й без пагроз у бальшавіцкім духу — нязгодныя і ўпартыя "атрымаюць самы жорсткі і рашучы адпор". Зварот заклікае людзей захоўваць вытрымку і разважнасьць (г. зн. пакорлівасьць).

Але, здаецца, не на вытрымку і разважнасьць скіраваны гэты зварот, а на тое, каб яшчэ больш раскалоць грамадства, узьвіхрыць настроі людзей, асабліва тых, хто яшчэ не пазбыўся бальшавіцкай ідэялогіі, скіраваць іхнюю незадаволенасьць на дэмакратычныя сілы. Паводле прынцыпу: падзяляй і ўладар!




*Сацыял-дэмакрат:*

**— Няхай тлус[illegible] прадпрый-мальні[illegible] на нашых бе[illegible], а мы іх [illegible] для [illegible] на[illegible]**

*[illegible]*

**— [illegible] к власти, [illegible] съедим. А [illegible] больше не будет [illegible] снова начнем "перестро[illegible]"**

**Мал. М. Чарняўскага**

## Натальлі Арсеньневай — 90

**Выдатнай беларускай паэтцы Натальлі Арсеньневай споўнілася 90 гадоў. Творчасьць яе прадстаўлена ў зборніках "Пад сінім небам", "Жоўтая восень", "Сягоньня", "Не астыць нам", "Між берагамі". Паэтка пакінула Бацькаўшчыну ў 1944 годзе, жыве цяпер у Злучаных Штатах Амэрыкі.**

**Прапануемую ўвазе чытачоў "Песьню каліноўцаў" Н. Арсеньнева напісала ў 1942 годзе. Яна павінна была стаць пралогам да спектакля па п'есе Е. Міровіча "Кастусь Каліноўскі" ў Менскім гарадзкім тэатры. Але акупацыйныя ўлады забаранілі паказ падрыхтаванага ўжо спектакля.**



Натальля Арсеньнева і Максім Танк пасьля дыскусіі ў літаратурна-мастацкай секцыі Беларускага навуковага таварыства **(Вільня, 22 студзеня 1937 г.).**

## Песьня каліноўцаў

*Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы,*
*як ні б'емся, ні гнёмся над імі у крук,*
*плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня дзіва,*
*што канае народ твой і ты,*
*Беларусь!*

*Але годзе!*
*Мы ўстанем!*
*Ціхім раньнем, на ўсходзе,*
*ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару*
*і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе*
*возьмем волю сабе і табе,*
*Беларусь!*

*Каліноўскі нас кліча і агніста й заўзята*
*на змаганьне за сьвята для мазолістых рук,*
*за зямлю для аратых,*
*і за сонца у хатах,*
*за увесь твой народ, за цябе,*
*Беларусь!*

*Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,*
*дык праб'емся ж крыніцай*
*спад зямлі угару,*
*каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца*
*наш загон, і бязьмежжы твае —*
*Беларусь!*

*Гэй, сьмялей,*
*гэй, далей,*
*не лякаймася сьмерці!*
*Нашы цэлы і славу сыны падбяруць.*
*Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,*
*але ты будзеш жыць і расьці,*
*Беларусь!*

# Прывабная рэч — крэсла прэзідэнта

Ці будзе пасада прэзідэнта ў Беларусі — яшчэ невядома. Але прэтэндэнты на гэтую пасаду ўжо ёсьць. Адзін зь іх — грамадзянін Канады граф Аляксандр Прушыньскі, паляк па нацыянальнасьці. Ён ужо фактычна распачаў сваю перадвыбарную кампанію — праводзіць сустрэчы, прэс-канферэнцыі і г. д. У ліпені па ягонай просьбе адбылася сустрэча, у якой удзельнічалі, як прыватныя асобы, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў, галоўны рэдактар "Менсае грамады" Алесь Траяноўскі і ўякасьці назіральніка Міхась Лужынскі — беларус з Аўстраліі, грамадзкі дзеяч тамтэйшае дыяспары. Затое рускамоўная экіпа графа Прушыньскага, якую ўзначальваў М. Вашкевіч — даверанная асоба кандыдата ў прэзідэнты, была значна большая.

Размова адбывалася ў абстаноўцы добразычлівасьці і ўзаемаразуменьня. Праўда, крыху зьдзіўляла тое, што яго сьветласьць не валодае дзяржаўнай мовай Рэспублікі, ня мае яе грамадзянства. Ды гэта, відаць, ня так і важна. Не валодаюць жа дзяржаўнай мовай пераважная большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савета незалежнай Рэспублікі Беларусь, многія міністры ўрада і ня хочуць яе ведаць. А наконт грамадзянства, дык яго атрымалі ў канцы леташняга года ў сьпешным парадку расейскія генералы і афіцэры, якія служаць у Беларусі.

Дык чаму ж падобнага ня можа быць і з кандыдатам у прэзідэнты. Тым больш, што граф А. Прушыньскі паабяцаў свой асабісты ўклад у разьвіцьцё беларускае эканомікі — у выглядзе невялічка бровара, які будзе выпускаць адменнае піва (вось ужо за адно гэта, думаецца, яго кандыдатуру падтрымаюць усе як адзін сябры Партыі аматараў піва).

**P. S.** *Бацька графа А. Прушыньскага — Ксавэры Прушыньскі (1907 — 1950) — вядомы польскі пісьменьнік, афіцэр польскіх сіл збройных на Захадзе ў 1939-40-ых і 1944-45-ых гг. У 1941 — 1943 гг. — аташэ польскага пасольства ў СССР. Удзельнічаў у перамовах прэм'ера эміграцыйнага польскага ўрада В. Сікорскага са Сталінам у Маскве ў 1941 г. Гэтыя перамовы сталі тэмай ягонай кнігі "Ноч у Крамлі". Пасьля вайны К. Прушыньскі быў паслом Польшчы ў Галандыі. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Заходняй Нямеччыне.*

**Ул. інф.**

## Рэлікт мінуласьці

Што ні кажыце пра наш Менск, але ён усё-такі ўнікальны горад. Унікальны ў многіх адносінах. І па назвах сваіх вуліц і пляцоў. Я не кажу ўжо пра Савецкую, Сацыялістычную, Камуністычную, Ленінскую, Карла Маркса, Першамайскую і інш. Гэтыя ёсьць у кожным нашым горадзе і нават у мястэчках.

Менск — адзіны ў сьвеце горад, дзе да гэтага часу ёсьць вуліца Баляслава Берута. Бронзавая табліца на доме, адкуль пачынаецца яна, інфармуе няўцямных, што вуліца названа імем "выдающегося деятеля международного коммунистического и рабочего движения". Гэты шчыра адданы "отцу народов" чалавек усталёўваў у Польшчы сталінскі сацыялізм — сотні тысяч палякаў былі растраляныя, вывезеныя ў сібірскую катаргу, выгнаныя з родных мясьцін, марнелі ў турмах "народнай" Польшчы.

Таму і ня дзіва, што як толькі ў Польшчы перамагла дэмакратыя, палякі пастараліся, каб пазбавіцца ад усяго, што зьвязана з імем Берута. Зьніклі назвы вуліц і пляцоў імя Берута ў гарадах, зьнесены помнікі, Вроцлаўскі ўніверсітэт пазбавіўся ад ягонага імя (Берут, вядома, як і амаль усе тагачасныя камуністычныя дзеячы, не вучыўся ні ва ўніверсітэце, ні ў іншых ВНУ).

Што ж, наш Менск можа ганарыцца вось гэткай унікальнасьцю. толькі гэты гонар і ўнікальнасьць надта ж сумлеўныя.

## Размова аб праблемах Беларусі

Пасяджэньне палітбюро Хрысьціянска-дэмакратычнага саюза Усходняй Эўропы адбылося 5 лістапада ў Менску. У ім удзельнічалі прадстаўнікі Хрысьціянска-дэмакратычнага інтэрнацыяналу і хрысьціянска-дэмакратычных партый шасьці незалежных дзяржаў з былога СССР. У якасьці назіральніка з правам дарадчага голасу на пасяджэньні прысутнічалі прадстаўнікі БНФ "Адраджэньне".

На другі дзень адбылася канферэнцыя "Палітычныя ды эканамічныя праблемы Беларусі", наладжаная Беларускім Народным Фронтам разам з Хрысьціянска-дэмакратычным інтэрнацыяналам. З дакладамі на ёй выступілі З. Пазьняк, Ю. Хадыка, У. Заблоцкі, В. Голубеў, прадстаўнікі замежнай хрысьціянскай дэмакратыі А. Луі, В. Мартэнс, Р. Крэсьпі, М. Бадэнс.

У агульнай дыскусіі ўдзельнічалі прадстаўнікі дэмакратычных партый і арганізацый Беларусі і хрысьціянска-дэмакратычных партый Расеі, Украіны, Малдовы, Грузіі і Арменіі.

**Ул. інф.**

# *Сатанінская рэклама*

"Сатанінскія версэты" летась былі выдадзены ў Польшчы зусім ананімна. Не пазначаны ў іх ані назва выдавецтва, ані прозьвішча перакладчыка. Няма таксама нумару міжнароднага індэксу. Бо справа гэтая не жартоўная. Урад Ірану вызначыў узнагароду для забойцы аўтара кнігі Рушдзі — адзін мільён долараў і нават павысіў гэтую суму. Кожнаму, хто выканае гэтае забойства, паабяцана выплата ўсіх выдаткаў (кошт паездак, гатэляў і інш), адным словам, нібы справа ідзе пра камандзіровачныя. Італьянскі і японскі перакладчыкі паплаціліся ўжо жыццём за пераклад "Сатанінскіх версэтаў". пагроза сьмерці зьвісае над выдаўцамі, перакладчыкамі, распаўсюджвальнікамі, прадаўцамі.

Рушдзі хаваецца ў Англіі, яго ахоўвае брытанская спецыяльная служба. І гэта адбываецца ў канцы XX стагодзьдзя, у эпоху правоў чалавека, ААН, ЮНЕСКА, шырока абвешчанай усюды цярпімасьці і свабоды слова. Мусульмане прызналі кнігу Рушдзі блюзьнерскай і патрабаюць расправы зь яе аўтарам. Таму памыляюцца тыя, хто думае, што часы абароны асноваў веры з дапамогаю нажа або атруты даўно мінулі.

Парадаксальна й тое, як сьцьвярджаюць некаторыя, што ўся гэтая справа ўсчалася з-за даволі нуднай, слабай і баламутнай кніжкі. І калі б ня гэты дзіўны "прысуд" яе аўтару, "Сатанінскія версэты" былі б даўно забытыя ва ўсім сьвеце. Амаль 550 старонак кнігі запоўнены нейкімі намёкамі, цытатамі, запазычэньнямі, тлумам розных постацяў, сярод якіх губляюцца два галоўныя персанажы.

Як ні дзіўна, але прысуд аўтару "Сатанінскіх версэтаў" зрабіў вельмі добрую рэкламу кніжцы. Асуджэньне Рушдзі на сьмерць адначасна і абясьмерціла яго пры жыцьці, і несумненна, што ён увойдзе ў гісторыю сусьветнай літаратуры.

## На тое й ёсць такія партыі...

10 кастрычніка 1939 году была падпісана ў Маскве дамова паміж Савецкім Саюзам і Літоўскай Рэспублікай аб перадачы Літве Вільні і Віленскага краю і навязанай Масквою ўзаемадапамозе адзін аднаму. На наступны дзень, 11 кастрычніка, у Крамлі быў наладжаны банкет з гэтае нагоды. на ім тагачасны міністр замежных спраў Літоўскай Рэспублікі Юозас Урбшыс пацікавіўся ў Сталіна, ці могуць у Савецкім Саюзе саюзныя рэспублікі, карыстаючыся сваім правам, замацаваным у Канстытуцыі СССР, выйсьці са складу Савецкага Саюза?

Сталін на гэта адказаў:

— Да, если пожелают, могут, но в каждой из них на то и есть коммунистическая партия, чтобы они никогда этого не сделали.

Што ж, і ў нас ёсць камуністычная партыя, якая і не ўтойвае, да чаго яна імкнецца.

**Шчыра дзякуем спадару Міхасю Лужынскаму за ахвяраваньне 100 даляраў на выданьне "Менскае грамады". Будзем удзячныя грамадзянам і арганізацыям за дапамогу грашовымі сродкамі на выданьне газэты. Рахунак Асацыяцыі беларускіх выданьняў 700408 у АК Белбізнэсбанку ў г. Менску, код 739.**

***Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта***
***«Менская грамада»***
**Заснавальнікі: Асацыяцыя беларускіх выданьняў ТБМ імя Фр. Скарыны, Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягаўдзік.**

*Аўтары дапісаў адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, якая падаемляецца імі. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтараў. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.*

**Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.**

**Адрас рэдакцыі і выдаўца: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэл. і факс 33-13-52.**
Газэта набрана й зьвёрстана на настольна-выдавецкім комплексе штотыднёвіка «Наша доля»
*Наклад 4 тыс. паасобнікаў.*
*Друкарня МАЗ*
*Падпісана да друку* *23. XI. 1993 г.*
*Заказ № 1163*